Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

15 - 21 жніўня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

КАРЭСПАНДЭНТЫ ад 7 да 40 - №33 (121)

Спяшайцеся прыносіць матэрыялы для "маладзёжкі"!!!

## Шарамет дадае работы

*Затрыманне здымачнай брыгады беларускага бюро ОРТ адгукнулася не толькі ашмянскім пагранічнікам, але і іншым пагранкамендатурам.*

Не пагадзіўшыся з высновамі Паўла Шарамета аб празрыстасці мяжы, цяпер "зялёныя берэты" мусяць практычна без адпачынку несці службу па ахове мяжы, высочваючы парушальнікаў. Праўда, мясцовым жыхарам па лясных сцежках удаецца хадзіць туды-сюды, як і раней.

*Аддзел інфармацыі.*

## Адным абзацам

На мінулым тыдні пільная ўвага прэзідэнта была прыкаваная да ходу ўборачнай, стану нацыянальнай культуры і спорта. А. Лукашэнка паабяцаў да вясны аднавіць для спартсменаў і ўсяго насельніцтва спартыўныя збудаванні, якія пустуюць. Пашанцавала і беларускім кінематаграфістам: кіраўнік дзяржавы выдзеліць грошы для выпуску фільма, які мусіць прыцягнуць увагу гледачоў і стаць прызёрам міжнародных кінафестываляў. "Любіць па-руску-3"?

Чарговы падарунак грамадзянам падрыхтаваў і Нацыянальны банк. Замест раней вызначаных 200 долараў цяпер сума продажу замежнай валюты на адну фізічную асобу ў адным абменным пункце дазволена ў межах 500 долараў. Вось толькі саміх долараў - як не было ў наяўнасці, так і няма.

Наступова, па меры набліжэння 18-га жніўня, праясняецца сітуацыя з новымі правіламі афармлення асабістай маёмасці грамадзян, што перасякаюць беларускую граніцу. Правілы прадугледжваюць бяспошлінны правоз на беларускую тэрыторыю асабістай маёмасці грамадзян на суму да 1000 долараў ЗША, маёмасць на большую суму абкладваецца пошлінай як тавар.

Даходная частка бюджэту Маладзечна за першае паўгоддзе склала 132,4%. Тым не менш, па прадпрыемствах і ўстановах, поўнасцю або часткова фінансуемых з бюджэту, крэдыторская запазычанасць на 1 ліпеня была амаль 25 мільярдаў рублёў.

Днямі Ордэн Маці атрымалі валожынцы - старшыні рэгістратар пашпартна-візавай службы РАУС Тэрэза Слізькі, землеўпарадчык Гарodзькаўскага сельсавета Марыя Барада, палявод калгаса "Лоск" Тамара Сымановіч. Акрамя ўзнагароды, старшыня выканкома Валянцін Малішэўскі ўручыў жанчынам нешта і ў канвертах.

На Смаргоншчыне 5 чалавек атрымалі імянныя гадзіннікі і лісты падзякі. За выкананне сваіх непасрэдных працоўных абавязкаў. Кожны тыдзень райвыканкам падводзіць вынікі па ўборцы ўраджаю і ўзнагароджвае лепшых.

Мядзельскі раённы Дом дзіцячай творчасці наведалі англійскія гайды. Напярэдадні яны адпачывалі ў лагеры інтэрнацыянальнага сяброўства ў Аляхновічах, што на Маладзечаншчыне.

Паабольшае ў рэгіёне "фірмовых" футбольных турніраў. У Валожыне плануецца штогод праводзіць спаборніцтвы, прысвечаныя памяці земляка - суддзі нацыянальнай катэгорыі А. Латышава.

# Непатрэбныя

### *Паляванне за кватэрамі нямоглых: злачынства ці міласэрнасць?*

***МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета ўжо 9 чалавек накіраваныя ў інтэрнаты агульнага тыпу і для псіхахронікаў. Гэта вядомы сляпы 65-гадовы бомж, што жабраваў ля Дома гандлю і магазіна "Юбілейны". 40-гадовы інвалід Савецкай Арміі. І да т. п. Штогод каля 20 адзінокіх, хворых, састарэлых прапісваюцца ў такія дзяржаўныя ўстановы дажываць. Па-дзіркунску гучыць, асабліва для дваццаціпяцігадовай прыгожай Алёны, інваліда з дзяцінства, але гэта так: пэўная частка людзей нікому не патрэбная.***



У мясцовым доме састарэлых жыве Сяменаўна, старая і адзінокая. Выпадкова даведаўся, што ў горадзе ў яе ёсць двое родных дзяцей. Па законе ж дзеці абавязаныя плаціць за ўтрыманне бацькоў 2 мільёны рублёў штомесяц. Таму і не з'яўляюцца. Нядаўна 97-гадовая пераканала ўсіх афармiць яе ў Дом састарэлых. Сын, інвалід вайны, біў смяротным боем. Сапраўды, лепш памерці ў казённым, чым дома ад рукі "роднага" чалавека.

У некаторых былі апекуны. Сёння дзяржаўная дапамога на догляд - 50% мінімалкі. З індэксацыямі, кампенсацыямі выходзіць да 130 тысяч у месяц. Прычым у дзяржавы жорсткая пазіцыя. Гэтыя грошы дасць у выпадку, калі апякун не будзе працаваць і не будзе мець пенсійнага ўзросту. А аб'ект догляду павінен быць інвалідам I групы ці мець больш за 80 год.

*Заканчэнне на 2-й стар.*

## Навіны

### Зляцеліся астраномы

***ВІЦЕБСК. З 28 ліпеня па 5 жніўня па ініцыятыве МА РБ і мясцовага астраклуба "Гелиос" прайшоў IX злёт юных астраномаў краін СНД - упершыню на Беларусі. Сабраліся разам больш як сто хлопчыкаў і дзяўчынак з Маладзечна, Мінска, Баранавічаў, Наваполацка, Слуцка, Глыбокага, Віцебска, Самары, Новакузнецка, Обнінска, Мурманска, Керчы, Растова-на-Доне і іншых месцаў.***

Тыдзень змянялі адно аднаго лекцыі вучоных, выстаўкі творчых работ і турнір юных астраномаў, алімпіяда, астранамічныя назіранні. Працавалі секцыі па інтарэсах. Жадаючыя маглі згуляць у тэніс, шашкі, шахматы, більярд, нават схадзіць у турпаход, а калі не падводзіла надвор'е - правесці дыскатэку, паплаваць у Дзвіне, пазагараць.

Адзначаны высокі ўзровень тэарэтычнай і практычнай падрыхтоўкі юных астраномаў.

*Іван СЯРГЕЙ.*

### У пошуках выйсця

***СМАРГОНЬ. Пачала сваю дзейнасць пярвічка міжнароднай асацыяцыі маладых хрысціянскіх жанчын.***

Па колькасці яна пакуль невялікая - 10 чалавек. Але старшыня Людміла Шасцеракова не засмучаецца. На мэце яна ставіць дапамогу жанчынам і дзецям (не матэрыяльную падтрымку, а веды: як выйсці з той ці іншай сітуацыі). Цяпер у пярвічкі распрацоўваюць праграму "Клопат" - для пенсіянераў.

*Аддзел інфармацыі.*

### Адзін у полі

***АСТРАВЕЦ. Арыгінальна справіўшся з уборкай хлеба ў калгасе "50 год ВЛКСМ". Адным камбайнам "Ніва" (хаця ў калгасе налічваецца чатыры).***

Астатнія тры другі год запар не могуць вывесці ў поле з-за розных паломак, недахопу дэталяў. А на адзіным камбайне "б'ецца за ўраджай" Іван Жусін. Трэба думаць, што пакуль тут ёсць такія людзі, калгас не развaліцца, а краіна без хлеба не будзе.

*Ян ТАРАШКЕВІЧ.*

### Згубілі "нуль"

***ВІЛЕЙКА. Наведвальнікі секцыі абутку магазіна "Дзіцячыя тавары" днямі здзівіліся, калі пабачылі цану на жаночыя чорныя басаножкі: 50 тыс. рублёў.***

- Прадаўцы памыліліся, не ўпісалі нуль, - вялікя гаворкі ля якаснага тавару.

На самой справе прыватны прадпрымальнік закупіў за мяжой партыю абутку. Але на рэгіянальнай мытні ў Маладзечне не прад'явіў неабходных папер. Калі скончыўся тэрмін захоўвання, тавар развезлі па магазінах.

*Марына ТАЧЫЦКАЯ.*

### У Еўропу

***СМАРГОНЬ. У горадзе не заасфальтавана 25 вуліц, многія двары шматпавярховак.***

Пакуль спрыяе надвор'е, "Камунальнік" выпраўляецца. Прычым, каб не замінаць гараджанам, рамонтна-будаўнічыя работы пачынаюцца а 4-й гадзіне раніцы.

*Тарэса КУМІШЧА.*

### Нарачанскія ўцёкі

***МЯДЗЕЛ. "За жыццё пасля Чарнобыля" - дэвіз традыцыйных, чацвертых па ліку спаборніцтваў на Кубак Беларусі па супермарафоне. Каля 100 спартсменаў узялі ў ім удзел. Забегі праходзілі на шашы Вялікае Нарачанскае кальцо.***

Дыстанцыю ў 61 км хутчэй за ўсіх прабег былы тутэйшы, а цяпер мінчанін Іван Саковіч. Яго вынік - 3 гадзіны 50 хвілін. Супрацоўнік мясцовай газеты Аляксандр Быкаў на трыццаці кіламетрах у сваёй узроставай групе стаў трэцім. Спартыўнае свята скончылася прабегам школьнікаў на 2 км.

*Яніна БУГЛАК.*

### Разлічвацца ўсё адно нам

***МАЛАДЗЕЧНА. Па выніках праверкі правільнасці фарміравання цэнаў у ААТ "Маладзечнагандаль" парушэнняў амаль не выяўлена.***

Згодна з аналізам выдаткаў абароту, за апошні час знізіліся сумы, выплачаныя на заработную плату, затое істотна падвысіліся выплаты за арэнду і ўтрыманне памяшканняў.

Гэта - адна з прычын падвышэння гандлёвых нацэнак на тавар. Гандляры не вінаватыя, а разлічвацца пакупнік.

*Аддзел інфармацыі.*

